Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

№ 18 (54) 3-9 мая 1996 года

Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Прайшлі першыя сто дзён работы Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання. Усе мы добра памятаем працяглы выбарчы працэс і нашыя спадзяванні, звязаныя з выбарамі парламента. Апраўдваючы іх, дэпутаты хутка вырашылі арганізацыйныя пытанні (выбралі кіраўніцтва, камісіі) і прыступілі да работы над бюджэтам і ўпарадкаваннем падаткаабкладання.

Але як можна вырашаць пытанні змянення падаткаў, не маючы мадэлі развіцця грамадства, не ведаючы да гэтага часу, што будуем? А гэта– галоўнае.

І вось тут мы ўсе становімся заложнікамі дзяржавы. Наша думка нікога не турбуе. Курс можа быць выбраны любы дзеля нашага дабра. Але на гэты раз пранесла, пытанне так востра не паўставала.

І вось бюджэт накіроўваецца да прэзідэнта, потым ізноў у Вярхоўны Савет. У выніку галоўнай прычынай рознагалоссяў стала вызваленне ад падаткаў на прыбытак харчовай прадукцыі, якая вырабляецца калгасамі і саўгасамі. Дэпутаты-аграрыі і камуністы нават перайшлі тут у наступ, прызнаўшы нездавальняючай работу ўрада па вываду аграпрамысловага комплексу з крызісу.

Старшыня ВС Сямён Шарэцкі лічыць, што нашае жыццё палепшыцца, калі наладзяцца рытмічнасць і стабільнасць на вытворчасці. Стварэнне супольнасці Беларусі і Расіі паслужыць, на яго думку, наладжванню ранейшых эканамічных сувязяў. Адрэгулюецца вытворчасць, знойдзе наша прадукцыя свае рынкі збыту, тады і заработная плата павысіцца і цэны ўстановяцца рэальныя і стабільныя. Так што на некаторы час выйсце знойдзена. Засталося толькі дачакацца вынікаў выбараў у Расіі.

*Аляксандр УЛАДЗІН.*

## Адным абзацам

❑На днях у Маладзечне прайшла сустрэча мясцовых ветэранаў-дэмакратаў. Як вядома, рэспубліканская іх арганізацыя ў канцы мінулага года перарэгістравана пад назвай Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне "Ветэран". Таму напрыканцы мая ці ў пачатку чэрвеня маладзечанцы вырашылі правесці агульнагарадскі сход. Кантактны тэлефон– 66824.

❑Святам працы стаў дзень 1 Мая для большасці жыхароў, выехаўшых у вёскі і на дачныя ўчасткі на сельгасработы. Нехта ўспомніў і аб былой салідарнасці: у гарадах адбыліся мітынгі.

❑Пасяўная ў цэнтральнай Беларусі, у тым ліку і на Маладзечаншчыне, адпаведна ўказанням вертыкалі, павінна скончыцца да 5 мая. Калгаснікі рыхтуюцца адрапартаваць.

❑Працягваецца прыняцце мер супраць шэрагу ўдзельнікаў маніфестацыі, якая адбылася 26 красавіка ў Мінску на праспекце Скарыны. Усяго было затрымана 180 чалавек, 70 чакаюць рашэння суда, астатнія аштрафаваныя ў адміністрацыйным парадку. Ім прад'яўлены абвінавачванні ў дробным хуліганстве, супраціўленні супрацоўнікам міліцыі і знаходжанні ў нецвярозым стане.

❑У Беларусь прыбыла чарговая місія МВФ для кансультацый з Кабінетам міністраў аб выдзяленні крэдытаў нашай эканоміцы. Перагаворы працягнуцца да 10 мая. Гасцяваўшая раней місія Сусветнага банка падрыхтавала сваё далёкае ад аптымізму заключэнне: рэспубліка жыве ў доўг, замежныя інвестыцыі выкарыстоўваюцца неэфектыўна.

❑Інспектары УЕФА, якія знаходзіліся ў Беларусі з аглядам прапанаваных Беларускай Федэрацыяй футбола стадыёнаў для правядзення міжнародных матчаў, праверылі маладзечанскія стадыён, футбольнае поле і раздзявальні. У адрозненне ад стадыёна, які задаволіў гасцей, адзіная гасцініца горада прызнаная непрыдатнай. Спартсмены будуць жыць у сталіцы. Маладзечна, як і Магілёў, прызнаны падрыхтаваным для правядзення кубкавых матчаў пачатковых тураў, маладзёжных і жаночых турніраў.

❑Паўсюдна зніклі долары. Банкі працуюць на розніцы курсаў куплі-продажу ў 20-50 руб., але долараў няма. Попыт перавышае прапанову. Калі наяўны валютны калідор захаваецца да абумоўленага ўказам прэзідэнта тэрміну– 1 ліпеня, то ёсць сэнс пакласці пакуль грошы пад 5% на дэпазіт. Наўрад ці Нацбанк дапусціць рост курсу наяўнай валюты, але і зніжэнне каціровак у самы блізкі час не чакаецца.

❑У Ашмянах распачаўся выпуск сухіх дражджэй. У пакеціку з фольгі трыццаць грамаў прадукта. Два гады тэрмін захоўвання. Кошт у магазінах дзве з паловай тысячы рублёў. Салатавыя пакецікі добра раскупляюцца. Абсталяванне з Украіны ў хуткім часе акупіцца. Не ведаю, як для самагоншчыкаў, а для выпечкі мучных вырабаў, як сведчаць хатнія гаспадыні, сухія дрожджы– знаходка.

❑Не адзін раз віноўнікам пажараў на Валожыншчыне станавіўся сёлета звычайны газавы балон. Апошні пажар здарыўся ў красавіку. Работнікі газавай службы падключылі запраўлены газавы балон у доме па вуліцы Савецкай у райцэнтры. Праверылі - запалкай – і паехалі. А праз 15 хвілін успыхнуў агонь (уцечка газу ўсё ж была) і давялося выклікаць пажарных. На шчасце, абышлося без ахвяраў.

❑Ізноў большая частка вілейскага завода "Зеніт" адпраўлена ў адпачынак не па сваёй волі. Скончыцца ён 13 мая.



## Электрычка спыніцца ў шостым мікраараёне?

*МАЛАДЗЕЧНА. Мікрараён №6 хутка разрастаецца на самай ускраіне горада. Яго жыхарам, каб дабрацца да вакзала пешшу, патрабуецца амаль гадзіна, на гарадскі транспарт спадзяванка хісткая.*

Таму час ад часу ўзнікаюць пагалоскі, нібы непадалёк пачынаюць будаваць пункт прыпынку электрычкі Маладзечна-Мінск. Хаця грунтуюцца яны толькі на жаданні жыхароў мець некаторыя зручнасці. Афіцыйныя ж асобы парадаваць нічым не могуць.

Маладзечанскія чыгуначнікі не супраць. У іх інтарэсах, каб на новым прыпынку змаглі сесці ў электрычку жыхары шостага мікрараёна, "парашкоў", работнікі некалькіх буйных маладзечанскіх прадпрыемстваў.

Былі б толькі грошы на ўсе неабходныя работы. Ва ўпраўленні Беларускай чыгункі аб праблемах жыхароў ускраін Маладзечна не ведаюць, бо ўлады мясцовыя з просьбай не звярталіся. А апошніх маладзечанцы не турбавалі.

Можна было б перанесці бліжэй да горада прыпынак з Селівонаўкі, які сваё існаванне мала апраўдвае. Але работы шмат: падсыпка грунту, падвядзенне камунікацый, будаўніцтва дарог, пасадачнай платформы, будынка, іншае.

Фінансавы цяжар маглі б падзяліць горад, бліжэйшыя прамысловыя прадпрыемствы, чыгунка. Няма штуршка, каб закруцілася кола: жыхары– мясцовы гарвыканком– упраўленне Беларускай чыгункі.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

## Навіны рэгіёна

### Вернецца Ільіч?

*Заўчарашнім першамайскім дадджлівым днём на Цэнтральнай плошчы ў Маладзечне людзей сабралася значна менш, чым на суседнім калгасным рынку.*

Выступоўцы на мітынгу, наладжаным мясцовай арганізацыяй ПКБ, былі практычна тыя ж, што і на працягу апошніх некалькіх год. І гаворка ішла галоўным чынам аб тым, што ад ранейшых святочных лозунгаў засталася толькі назва месяца.

А ў заключэнне была прынята рэзалюцыя, адным з пунктаў якой выказана прапанова дэпутатам гарадскога савета вярнуць плошчы ранейшае імя правадыра ўсіх працоўных і зноў назваць сённяшні Вялікі Гасцінец праспектам імя У. І. Леніна.

*Іван БАРКОЎСКІ.*

### Расці, лес

*МЯДЗЕЛ. 25-28 красавіка на Мядзельшчыне адбыўся экалагічны злёт скаўтаў, арганізаваны Бярнардам Пакульніцкім, кіраўніком Буйкаўскай харугвы скаўтаў. Удзел прынялі скаўты з Маладзечна, Вілейкі, Мядзела, Лыцавічаў, Старлыгаў...*

На злёце былі і гульні (футбол паміж дзяўчынкамі і хлопчыкамі), і вярста здароўя, дыскусіі, наведванне касцёла ў Шэметаве. Але галоўнае– пасадка лесу. Усяго пасадзілі 10 гектараў. Было б болей, аднак перашкодзіў дождж. Лясгас удзячны за пасадку дрэў.

*Галіна ПАРАШНЯКОВА, Алёна МАРКОЎСКАЯ, Маша КІНЬКО, скаўты Маладзечанскай харугвы.*

### Жанчына ў калгасе

*За ўсю гісторыю існавання калектыўных гаспадарак на Астравеччыне ўпершыню адну з іх узначаліла жанчына.*

Трыццаціпяцігадовая Наталля Прэпесць у сярэдзіне васьмідзесятых скончыла заатэхнічны факультэт Гродзенскага сельскагаспадарчага інстытута. Спачатку працавала ў родным калгасе "Чырвоны Кастрычнік" Астравецкага раёна загадчыцай малочнатаварнай фермы, затым заатэхнікам-селекцыянерам. Восем гадоў узначальвала заатэхнічную службу калгаса "Кямелішкі", дзе на справаздачным сходзе калгаснікі і абралі яе старшынёй гаспадаркі.

Па меркаванню раённых улад, Наталля Дзянісаўна, нягледзячы на маладосць, адзін з самых вопытных і кваліфікаваных спецыялістаў у раёне. У характары гэтай жанчыны пераважаюць дзелавітасць і смеласць. Як вядома, такую характарыстыку не часта можна пачуць у адрас мужчыны, так што калгасным мужыкам прыйдзецца цяпер падпарадкавацца "старшыні ў спадніцы".

*Галіна СІНІЦКАЯ.*

### Запрашае палітэхнікум

*МАЛАДЗЕЧНА. Летась мясцоваму палітэхнікуму споўнілася 35.*

Цяпер у ім займаецца 1337 чалавек на дзённым аддзяленні. Для арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу працуюць 39 лабараторый і кабінетаў, майстэрні, бібліятэка, спартыўная зала, плавальны басейн пад дахам, стралковы цір, лыжная база.

80 выкладчыкаў і супрацоўнікаў садзейнічаюць развіццю рознабаковых здольнасцей навучэнцаў. Створаны музейны пакой гісторыі тэхнікума. Штогод праводзяцца "адкрытыя мікрафоны"– сустрэчы навучэнцаў з адміністрацыяй тэхнікума, анкетаванне "Выкладчык вачамі навучэнцаў".

4 красавіка ў літаратурна-музычнай гасцінай прайшоў "злёт выдатнікаў і ўдарнікаў навучання". На свята запрасілі лепшых навучэнцаў І-ІІІ курсаў. Многіх узнагародзілі грашовымі прэміямі. Прыемна, што ў тэхнікуме ўспомнілі старую добрую традыцыю, аднавілі яе.

За 35 год у маладзечанскім палітэхнікуме падрыхтавана больш за 40000 спецыялістаў, шмат выпускнікоў займаюць высокія кіруючыя пасады.

*Святлана КЛІМОВІЧ.*

### Долары на лякарствы

*ВАЛОЖЫН. Адна з дабрачынных грамадскіх арганізацый Японіі некалькі год падтрымлівае цесныя сувязі з сярэдняй школай №1.*

У апошні прыезд японскія сябры прывезлі каля 13 тысяч амерыканскіх долараў на патрэбы аховы здароўя. Праз фармацэўтычную фірму "Лорма" з Мінска ў вёску Пяршаі дастаўлена дзіцячае харчаванне, вітаміны. У названую школу перададзены медыкаменты на суму 1100 долараў для камплектавання класных аптэчак у СШ №1. Астатнія сродкі пайшлі на набыццё аднаразовых шпрыцаў і сістэм, дарагіх медпрэпаратаў і самых неабходных антыбіётыкаў для медустаноў раёна.

Японскія госці сустрэліся з вучнямі СШ №1, якія пабывалі ў краіне Узыходзячага Сонца, і іх бацькамі, цікавіліся пра неабходнасць адпачынку на такіх далёкіх адлегласцях. Вучні 4-5 класаў рыхтуюцца да вандроўкі ў Японію.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Калгас і санаторый

*ВІЛЕЙКА. Вяскоўцы пачалі больш хварэць. Асабліва на сэрца, страўнік. Пакутуюць на апорна-рухальную сістэму механізатары, даяркі.*

За мінулы год ў раёне па прычыне хваробы страчана 52726 чалавека-дзён. Лічба згубленага рабочага часу паказвае: у гаспадарках цэлы год не працавалі 200 чалавек. Амаль калгас. Ён жа (калгас) у поўным складзе за год падлячыўся ў санаторыях (217 чалавек).

Жадаючых адпачыць– чарга. Кошт пуцёўкі ў сярэднім 3 мільёны 700 тысяч. Дзесяць працэнтаў плаціш са сваёй кішэні– і едзь у любы куточак рэспублікі. Акрамя таго прадугледжаны льготы для розных катэгорый вяскоўцаў.

*Аддзел інфармацыі.*

### Анатоль Карпаў у Нью-Васюках

*МАЛАДЗЕЧНА. Мінулы панядзелак стаў для горада амаль гістарычным– упершыню ў Беларусь прыехаў экс-чэмпіён свету па шахматах і, натуральна, не мог не завітаць у Маладзечна.*

Адгукнуўся ён на запрашэнне дэпутата ВС Пятра Краўчанкі (апошні выконваў сваё даўняе абяцанне перад землякамі). Паколькі мясцовая "вертыкаль" аказалася, як бы ні пры чым, то і першая рэакцыя на прыезд вядомага шахматыста была адпаведная: маўляў, чаго мы яму вячэру будзем ладзіць? Аднак пасля гутаркі з "бацькамі горада" Карпаў прыехаў у абласны драмтэатр Ганаровым грамадзянінам Маладзечна. Анатоль Яўгенавіч пакруглеў, адпусціў жывоцік, таму новае званне яму пасавала.

Кульмінацыяй сустрэчы стаў сеанс адначасовай гульні на 21 дошцы. Акрамя мацнейшых удзел у ім узялі 6 дзяцей і 1 дзяўчына. Трое з апошніх згулялі ўнічыю– маэстра быў адкрыта гарэзлівы.

Затое мацнейшыя сёння на Маладзечаншчыне Яўген Чаеўскі і Віталь Качаткоў свае нічыйныя вынікі мелі заслужана. Характэрна, што экс-чэмпіён свету сам прапанаваў абодвум разысціся мірна (адчуваў небяспеку?). Хаця, да прыкладу, у партыі з Чаеўскім выціскаў, у сваім стылі, з пазіцыі ўсё, што мог.

Сітуацыя на сеансе мела эпізоды дастойныя Ільфа і Пятрова. За кожным столікам "гулялі" адначасова па некалькі чалавек. Той жа Чаеўскі вымушаны быў акрамя партыі займацца растлумачальнай работай з насельніцтвам: чаму нельга рабіць прапанаваныя імі хады.

Сфатаграфавацца з вялікім змог кожны жадаючы. Дзеці атрымалі шахматную літаратуру, сам Карпаў– букет кветак.

На паведамленні аб вячэры ў неафіцыйнай абстаноўцы апусцім заслону.

*Аддзел інфармацыі.*

## ПАДПІСКА не спыняецца

Сёння вы можаце падпісацца на "РГ" у любым аддзяленні пошты. Кошт падпіскі на месяц– 4 тысячы руб., квартал– 12 тыс. р., паўгоддзе– 24 тыс. р. Калі падпішацеся з чэрвеня, то за 7 месяцаў вам трэба будзе выкласці 28 тыс. руб. У выніку– кожную пятніцу ў вашай паштовай скрыні вы будзеце знаходзіць "Рэгіянальную газету". Рэдакцыя мяркуе павысіць кошт газеты ў розніцу. Падпісчыкаў павышэнне цаны не закране.

